*«Вершы [Максіма Багдановіча] я вучыў на памяць у 17 год, затым чытаў падчас экскурсій. Яны кранаюць мяне і зараз, калі я сяджу на нары, праглядаю абрапаны томік вершаў Максіма Багдановіча 1968 года выдання з выдранымі некаторымі старонкамі і паглядаю на вежу Пішчалаўскага замка, якая ззяе белізной на сонцы».*

**Алесь Бяляцкі,**
**сябра ПЭНа, праваабаронца і палітзняволены,**
**дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**
**з 1989 па 1998 гады.**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



Фота: Depositphotos.com

**Медыя паведамляюць пра чысткі ва ўстановах культуры па ўсёй Беларусі: вядома пра больш за 150 звольненых з Дзяржаўнай філармоніі, Гістарычнага музея, Нацыянальнай бібліятэкі, Тэатра оперы і балета, Акадэміі мастацтваў, Музея гісторыі беларускай літаратуры, Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, Гродненскага абласнога тэатра лялек ды іншых арганізацый. Ёсць інфармацыя пра існаванне спісаў на масавае звальненне, якія трымаюцца ў сакрэце. Людзей звальняюць пад рознымі датамі і з розных прычынаў, каб схаваць чыстку.**



Фота: budzma.by

**Уладзіміра Булаўскага, вядомага актывіста і арганізатара культурніцкіх імпрэзаў, якога затрымалі 26 лістапада ў Віцебску, пакаралі 7 суткамі арышту. 1 снежня ён выйшаў на волю.**

**Прыгодніцкі фільм «Авантуры Пранціша Вырвіча» па творы Людмілы Урублеўскай знялі з пракату ў Беларусі. У фільме здымаліся некалькі акцтораў-купалаўцаў, якія ў 2020-м пакінулі тэатр на знак пратэсту.**





У Гродна звольнілі Ірыну Сільвановіч, дырэктарку выстаўнай залы, якая падтрымала пратэсты ў 2020-м.

Фота: Novychas.online

Фёдара Чаранкова, вакаліста гурта «Ня Варта», звольнілі з Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода пасля 8 гадоў працы. Музыка быў асуджаны на 5 сутак за падпіску на «экстрэмісцкія» рэсурсы, у турме захварэў на каронавірус, а пасля вызвалення быў на бальнічным. Пасля выздараўлення, Фёдар прыехаў на месца працы, аднак яму паведамілі, што ён быў звольнены з-за адбывання адміністрацыйнага арышту.



Фота: budzma.by



Павел Белавус, заснавальнік культурніцкай пляцоўкі «Арт Сядзіба» і крамы сувеніраў з нацыянальнай сімволікай Symbal.by, не выйшаў на волю пасля 15 сутак арышту. Яго мусілі вызваліць 3 снежня а 15:40. Блізкія Паўла не ведаюць, чаму яго працягваюць утрымліваць у няволі.

У мінскай філармоніі пасля даносу «неабыякавага» грамадзяніна скасавалі канцэрт «Жоўтыя зоркі» памяці ахвяр Халакосту, запланаваны на 20 і 22 студзеня. У лісце некага пад імем Іван Нікіфараў, гаворыцца, што «так званыя «праекты» падаюцца як дабрачынныя, але насамрэч сродкі ад іх ідуць на падтрымку апазіцыйных арганізацый (напрыклад, Гродненскі хоспіс), і да ўдзелу прыцягваюцца артысты, задзейнічаныя ў апазіцыйных акцыях».




Фота: Racyja.com

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Аляксей Мінаў, беларускі літаратар і настаўнік беларускай мовы і літаратуры, палітзняволены, напісаў верш, пабачыўшы перад судом у калідорах Вольгу Залатар, палітзняволеную актывістку і шматдзетную маці, якая бадзёра і жыццярадасна казала ўсім па-беларуску «добрай раніцы» і пасміхалася. Верш мае радкі «Помні, гэта хутка-хутка міне, ведай, нехта дыхае тваім смехам».**





**Мікола Папека, палітзняволены і паэт, асуджаны па «карагоднай» справе, даслаў на волю новы верш і расказаў, што працуе ў яслях-садзіку, а таксама сумуе па сябрах і сваёй пчалярні.**

Фота: spring96.org

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

Ва Уроцлаве, Польшча, адбыўся музычны перформанс **Паліны Дабравольскай**, беларускай актрысы, рэжысёркі і музыкі, па кнізе **Марыі Мартысевіч** «Сарматыя». У перформансе пра трагічную гісторыю немагчымасці прыжыцца на чужыне спалучаюцца фолк-музыка і хіп-хоп.







фота Aif.by

У прасторы «Вершы» ў Мінску 22 лістапада адбылася сустрэча з **Андрэем Янушкевічам**, дырэктарам выдавецтва «Янушкевіч»; гутарка вялася пра спецыфіку працы кніжнага выдавецтва ў Беларусі і сучасную беларускую літаратуру.

Стужка «Дапаможнік» мінчаніна **Паўла Мажара** пра катаванні падчас беларускіх пратэстаў прызнана лепшым кароткаметражным фільмам на самым аўтарытэтным сусветным форуме дакументальнага кіно IDFA ў Амстэрдаме.




Фота: budzma.by




**Беларуская Рада Культуры запусціла дабрачынны калядны аўкцыён, дзе можна набыць новую карціну з коцікамі Вольгі Якубоўскай, якая прысвяціла яе ўсім беларусам.**

**Лявон Вольскі, культавы беларускі музыка, дасць тур па гарадах Польшчы.**

Фота: budzma.by






**Фільм «Courage» Аляксея Палуяна пра мінулагоднія пратэсты ў Беларусі кваліфікаваўся на прэмію Оскар у катэгорыю лепшых дакументальных поўнаметражных фільмаў.**

Фота: Living Pictures Production

**«Купалаўцы», трупа з калектыва Купалаўскага тэатра, якія звольніліся ў 2020 годзе, абвясціла прэм'еру першага спектакля другога сезона: «Запіскі афіцэра чырвонай арміі» паставіў Мікалай Пінігін паводле аднайменнага раману Сяргея Пясецкага. Першы паказ адбыўся 4 снежня 2021 года ў Кракаве, Польшча, у рамках фестывалю Boska Komedia.**




Фота: budzma.by




Фота: spring96.org

**Запусцілася анлайн-выстава «MADE IN BELARUS / MADE OF PAIN» пра Беларусь у поствыбарны перыяд 2020 года. Аўтар праекта - Аляксандр Сушчэўскі, фатограф, рэжысёр-пастаноўнік.**

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Аліна Коўшык, заснавальніца Цэнтра Беларускай Салідарнасці ў Варшаве:**
***«Важна, каб усё было, жыло, каб беларускае жыццё віравала! Беларуская хваля стала бачнай, і гэта цудоўна. Я заўважаю, што мы, беларусы, тут, у Варшаве, аб'ядналіся, адчулі сябе часткай аднаго цэлага і большасці людзей наша родная культура стала цікавай. Беларуская імпрэза — гэта не абавязкова шэсце з бела-чырвона-белымі сцягамі, гэта можа быць выстаўка, канцэрт, дваравая вечарынка ці звычайная сустрэча за кавай. Беларускасць праяўляецца ва ўсім».***



Фота: budzma.by



**Андрэй Куціла, беларускі рэжысёр-дакументаліст, аўтар стужкі «Калі кветкі не маўчаць» аб гераінях беларускіх пратэстаў, якая стала лепшым дакументальным фільмам на Варшаўскім кінафестывалі, - падзяліўся ў інтэрв'ю:**

***«Я ніколі так не плакаў над сваім жа матэрыялам, як над здымкамі з пратэстаў. У мяне няма асаблівага расчаравання сёння, бо не было і ілюзій. Наадварот, натхненне: мы не маем права так казаць, бо ёсць ахвяры, але з пункту гледжання вызначэння, хто мы і куды мы ідзем, сітуацыя лепшая, чым яшчэ жыць так дваццаць гадоў. І нашмат лепшая, чым была».***

Фота: budzma.by

фота з архіва Дз. Шыманскага



**Дзмітрый Шыманскі, дудар з гурта «Яварына», які быў асуджаны на тры гады «хіміі» за тое, што граў на маршы 16 жніўня 2020 года, але змог пакінуць Беларусь, расказаў:**

***«Пакуль я сядзеў, змог зрабіць духавы інструмент: былі такія вузкія цыліндрычныя баначкі з-пад вітамінаў. Я назбіраў іх штук шэсць, злучыў паміж сабой, выразаў дзіркі і атрымаўся імправізаваны кавал (флейта пастуха, інструмент, які распаўсюджаны ў Азіі і Паўднёва-Усходняй Еўропе). Гэта парушэнне, але ў нейкія моманты я ціхенька граў на ім. 100%, што я вярнуся ў Беларусь. Вера ў перамены нікуды не знікла — яны будуць, проста, можа, не так хутка. Але нікуды ад гэтага не падзецца».***

**У зняволенні Алесь Бяляцкі, сябра ПЭНа, праваабаронца і палітзняволены, піша ўспаміны пра працу дырэктарам у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча з 1989 па 1998 гады:**

***«Пра любоўную лірыку Максіма Багдановіча можна гаварыць і гаварыць, хапіла бы і на поўную экскурсію. Гэтыя вершы, створаныя пад уплывам пачуццяў да Анны Какуевай, я вучыў на памяць у 17 год, калі адкрыў для сябе паэзію Багдановіча, затым чытаў падчас экскурсій ў чацвёртай зале музея «Жанчыны ў жыцці Максіма Багдановіча». Яны кранаюць мяне і зараз, калі я сяджу на нары, прагляджаю абрапаны томік вершаў Максіма Багдановіча 1968 года выдання з выдранымі некаторымі старонкамі і пагляджаю на вежу Пішчалаўскага замка, якая зззяе белізной на сонцы».***



фота Сяргей Чырык

**Таццяна Нядбай**, **старшыня ПЭНа, выказалася пра масавыя чысткі ва ўстановах культуры:**
***«Па стане на 1 снежня нам вядома больш за 100 імёнаў дзеячаў культуры, звольненых або тых, хто вымушана сышоў пасля гадоў або дзесяцігоддзяў працы. І гэта толькі пачаткі фіксацыі дадзеных па лавіне звальненняў, часам амаль па сотні чалавек толькі ў адной інстытуцыі. Маштаб шакуе. Даходзіць інфармацыя пра існаванне спісаў на масавае звальненне работнікаў культурніцкіх устаноў. Натуральна, гэтыя матэрыялы трымаюцца ў сакрэце; людзей звальняюць пад рознымі датамі і з розных прычынаў. Так бы мовіць – размываюць чыстку, бо калі ўсіх незадаволеных звольніць цягам снежня, то можна атрымаць пратэсты нават ад спакойных музейшчыкаў».***


PEN Belarus


Viktor Tolochko/SNA/Imago images

**Марыя Калеснікава**, **актывістка, музыка, палітзняволеная, распавяла, чым бы хацела заняцца на волі:**
***«У мяне ёсць шмат ідэй для музычных і культурных праектаў. Напрыклад, з СІЗА хацела б зрабіць культурны асяродак, стварыць прастору, музей ахвяраў камунізму, таталітарызму і іншых «ізмаў». І сацыяльны праект: цэнтр для сацыялізацыі і рэабілітацыі жанчын пасля зняволення».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ







PEN Belarus

**Міжнародны ПЭН патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і Уладзіміра Мацкевіча, палітзняволеных сябраў Беларускага ПЭНа.**

БЕЛАРУСКІ
МОЛАДЗЕВЫ
ХАБ

**У Варшаве адкрыўся «Беларускі Моладзевы хаб» для дзейнасці беларускіх ініцыятыў. Цяпер там працуюць курсы беларускай мовы «МОВА Нанова», рэпетуюць Teatr TuT і Warsaw Freedom Orchestra, праходзяць паказы арт-праекта Revolution.**



afisha.ru

Рэпер **Аксімірон** у першым за 6 гадоў альбоме ў трэку «Окно в Париж» згадаў палітычную сітуацыю ў Беларусі: «Блаженны нищие духом» — так учит нас Священное Писание. Путин носит Celine, Лукашенко — Margiela».

**Вітольд Ашурак**, палітвязень, які загінуў за кратамі, пасмяротна ўганараваны ўкраінскім крыжом «**За годнасць у палоне**». Гэтую ўзнагароду за ўвесь час існавання атрымалі менш за 100 чалавек.







Кнігу «Фарбы паралельнага свету» **Міколы Дзядка**, палітвязня, літаратара і блогера, выдалі на нямецкай мове. У гэтай кнізе Дзядок распавядае пра тое, як беларуская пенітэнцыярная сістэма ламае асобу.

PEN Belarus

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**Па стану на 5 снежня ў Беларусі 896 чалавек прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца.**
**Беларускі ПЭН як аб'яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У снежні 6 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Ксенія Сырамалот, паэтка і студэнтка (19 снежня); Аляксандр Галкоўскі, навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН (24 снежня); Мікалай Папека, паэт і пчаляр (28 снежня); Валерыя Кацюгава, палітолаг і аналітык, рэдактарка і аўтарка «Беларускага штогодніка» (30 снежня ), Павел Севярынец, пісьменнік, сузаснавальнік партыі БХД (30 снежня ) і Мія Міткевіч, менеджарка ў сферы культуры (31 снежня).**

**Павіншуйма палітвязняў з днём нараджэння і надыходзячым Новым годам паштоўкай ці лістом!**

**Адрасы для лістоў:**

**Ксенія Сырамалот і Мія Міткевіч: ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3;**
**Аляксандр Галкоўскі: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №9. 210034, г. Віцебск, вул. 3-я Чэпінская, 39;**
**Мікола Папека: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №21. 247760, г. Мазыр, бульвар Юнацтва, 24;**
**Валерыя Касцюгава: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**
**Павел Севярынец: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.**

